# ДОБРЫ ВЕЧАР

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1993 ЧЭРВЕНЬ 2 СЕРАДА

№ 101 (536)

Цана 5 рублёў.

## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

*ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ БЕЛАПАН, РІД, БЕЛІНФАРМ І ЎЛАСНЫХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ»*

### □ КОРОТКО

В МИНСКЕ проходит первое заседание консультативно-координационного комитета СНГ, решение о создании которого было принято на последней встрече глав государств в Москве и в состав которого входят вице-премьеры всех стран Содружества.

На заседании обсуждаются прежде всего организационные и кадровые вопросы, в частности, утверждение регламента, определение плана работы комитета на ближайшее время. Планируется также избрание председателя комитета.

* * *

В СТОЛИЦЕ закончила работу Международная конференция на тему «Социализация детей и подростков», организаторами которой выступили Министерство образования Республики Беларусь и Республиканский Дворец пионеров и школьников. Обьектом обсуждения стали проблемы современных тинейджеров, трудности их социальной адаптации в мире взрослых. По этим и другим вопросам состоялись пленарные заседания. Кроме того, организаторы постарались выйти за рамки лекций и семинаров: была проведена выставка детского творчества.

* * *

ЕЩЕ В АПРЕЛЕ в Нью-Йорке стартовал «Фестиваль мира». За это время его посланцы посетили уже около 80 стран на разных континентах планеты. Завтра, 3 июня, фестиваль прибывает в наш город. В связи с этим в парке имени Горького состоится народное гулянье и праздничное представление.

### «САХАР ЕСТЬ, А ЦЕНЫ НЕТ », —

ИМЕННО ТАК нам ответили в управлении торговли на вопрос, почему в магазинах лежит сахар, но его не продают. Оказывается, поставщики еще не сообщили цену. Но в ближайшие дни все решится. И с 7 июня или даже раньше сахар начнут отпускать покупателям.

### НОВЫЯ АЎТАМАТЫ Ў ГАНДЛІ

**КАНВЕРСІЯ — сёння гэтае слова на слыху. Скарачаецца колькасць узбраенняў, знішчаюцца лішнія ракеты, танкі, іншая зброя. Дайшла чарга і да аўтаматаў. Праўда, толькі тых, якія раней гандлявалі газіраванай вадою. Як паведамілі ў кіраўніцтве гандлю Мінгарвыканкама, аўтаматы газвады дэманціраваны з-за немагчымасці іх эксплуатацыі. Пастаянны рост цэнаў на сіропы, высокі кошт манетнікаў, антысанітарыя — усё гэта зрабіла немэтазгодным само іх існаванне. Але ж, пэўна, яны былі зусім не лішнімі ў горадзе. Таму для вырашэння праблемы і ўзамен «раззброеных агрэгатаў» у бягучым годзе закуплена 28 аўтаматаў «Фанта» і «Кока-кола», якія ўстаноўлены ў крамах па праспекце Скарыны і на Прывакзальнай плошчы.**

### □ У МІНГАРСАВЕЦЕ

ЧАРГОВАЯ сустрэча ў прэс-цэнтры была прысвечана прайшоўшай XII сесіі гарадскога Савета. Адказваў на пытанні прысутных намеснік старшыні Мінгарсавета Анатоль Гурыновіч. Зрэшты, Анатоль Васільевіч перш-наперш даў ацэнку рабоце сесіі як дзелавой, на якой былі прыняты важныя для горада рашэнні. Ён падрабязна спыніўся на кожным больш-менш важным пытанні парадку дня, растлумачыў асноўныя палажэнні прынятых дакументаў, абгрунтаваў падыходы да вырашэння і пазіцыю дэпутатаў па той ці іншай праблеме. «Добры вечар», як вы, напэўна, памятаеце, падрабязна асвятляў ход падзей на сесіі, друкаваў многія прынятыя рашэнні. Некаторыя пастановы, як, у прыватнасці, дапаўненні да палажэння аб адміністрацыйнай адказнасці, яшчэ будуць апублікаваны, так што не бачу неабходнасці зноў пераказваць іх сэнс. Журналістаў вельмі цікавіла, ці будзе ўведзена ў дзеянне рэгістрацыя грамадзян, якія пастаянна пражываюць за межамі Рэспублікі Беларусь. Зрэшты, як і ў дэпутатаў, у прысутных былі свае прапановы і погляды на гэтую праблему, але, як адзначыў Анатоль Гурыновіч, рэгістрацыя будзе існаваць: хаця рашэнне аб зборах і не было прынята сесіяй. Намеснік старшыні гарсавета падрабязна адказаў на ўсе пытанні, у тым ліку і тыя, якія непасрэдна не адносіліся да тэмы сустрэчы, і праінфармаваў, што наступная сесія гарадскога Савета плануецца на канец верасня — пачатак кастрычніка.

### *ТРЫСТА ТЫСЯЧ НА ДАРОЗЕ НЕ ВАЛЯЮЦЦА*

НА АДРАС парафіі Святога Роха ад кіраўніцтва Белдзяржфілармоніі прыйшоў ліст, у якім патрабуецца выплаціць звыш 300 тысяч рублёў. Менавіта ў такую суму ацэнены страты, панесеныя філармоніяй з-за таго, што ў выніку захопу каталікамі касцёла Святога Роха былі сарваныя арганныя канцэрты. Урэшце рэшт канфлікт быў улагоджаны, дасягнута дамоўленасць аб сумесным выкарыстанні будынка касцёла. Вось за той перыяд бяздзейнасці храма як арганнай залы і намерваецца Белдзяржфілармонія спагнаць грошы.

Аднак парафія Святога Роха, як паведаміў карэспандэнту БелаПАН яе сакратар Уладзімір Папруга, не збіраецца выплочваць гэту суму, тым больш, што няма грошай на рахунку. Магчыма, у Міністэрства культуры рэспублікі будзе накіраваны ліст з просьбай скасаваць гэты «штраф».

### □ ФОТОФАКТ

## ЧЕТЫРЕ ФЕСТИВАЛЬНЫХ ДНЯ

*ПРАЗДНИЧНЫМ гуляньем в минском парке им.М.Горького 30 мая закончился III международный фестиваль детского творчества «Голос детства», который четыре дня проходил в столице РБ. Фестивальное гулянье в парке началось театрализованным открытием праздника. Затем интересно прошли выступления юных гостей из Латвии, России, областей Беларуси, столичных коллективов, цирковых артистов. Красочным было выступление артистов в масках в праздничном зрелище на реке Свислочь.*

ФОТО МИХАИЛА МАРУГИ

### □ ПРОИСШЕСТВИЯ

## ВСЕ ТЕЧЕТ, ВСЕ ПРОЛИВАЕТСЯ... А ЕСЛИ НА ГОЛОВУ?

АНАТОЛИЙ БЕЛОУС.

ПРИПОМНИТЕ, одно время практически все газеты дружно «освещали» тему так называемых кислотных дождей. Явление это, судя по всему, намерено прописаться и в нашей столице.

Не успели разобраться в происшествии с азотной кислотой, что приключилось 25 мая по улице Казинца, как 28-го поступил новый сигнал. В штаб ГО города сообщили, что на балконе одной из квартир дома № 13 по улице Скриганова снова разлита кислота. На этот раз серная. На место выехала оперативная группа из представителей Гражданской обороны города, милиции, а также работников лаборатории горСЭС. Здесь и выяснилось, что помещение это также сдавалась внаем, правда, на законных основаниях. И тоже лицам кавказской национальности. С какой целью хранились на балконе второго этажа жилого дома пять емкостей с серной и азотной кислотами, выяснит следствие. Однако новый и последний хозяин, армянин по национальности, заявил, что ничего знать не знает о происхождении бутылей. Они, мол, достались ему в наследство от прежних жильцов. Обнаружив кислоту, он попытался поднять одну из емкостей и вылить ее в канализацию, но не удержал в руках. Произошло это около 10 вечера. И на этот раз, слава Богу, все обошлось. Под балконом никого не было, а жилец отделался испугом. Но вопросы остаются. И главный из них: как же в столице поставлен учет и контроль за сохранностью этих далеко не безопасных веществ. И кто ответит за их утечку?..

### □ КРИМИНАЛ

СЕРГЕЙ РАЧИЛА, пресс-центр УВД г.Минска.

### *ОХРАНЯЮТСЯ СТОРОЖЕМ...*

**В НОЧЬ на 31 мая с башенного крана стройки по улице Илимской срезано и похищено 30 метров медного силового кабеля. В это же время из строительной бытовки СУ-19 стройтреста № 1, расположенной на территории строящегося здания средней школы по улице Герасименко, похищено 20 кв.метров оконного стекла.**

**И, наконец, с «Волги» второго столичного таксопарка, стоявшей на стоянке в этом таксопарке, «улетучились» все четыре колеса.**

**Все эти преступления были совершены в одну ночь. И под неусыпный храп местных сторожей...**

### *...ВАЛЕЙКУМ АССАЛОМ!*

**В ПОНЕДЕЛЬНИК утром на автостанции «Дружная» сотрудниками столичного Управления уголовного розыска и Комитета госбезопасности был задержан 28-летний житель Туркменистана А., который прибыл в Минск из Москвы. При досмотре у него обнаружили более 200 граммов наркотиков. По данному факту возбуждено уголовное дело, а «курьер» водворен в изолятор временного содержания.**

**Возбуждено уголовное дело.**

● РЭХА ПАДЗЕІ

# С.ШУШКЕВІЧ РАІЦЦА З ЭКАНАМІСТАМІ...

*Сустрэча Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі С.С.Шушкевіча з вучонымі-эканамістамі адбылася ў панядзелак. У цэнтры ўвагі былі шляхі выхаду краіны з эканамічнага крызісу.*

УЛ.ІНФ. «ДВ».

«Я прыйшоў паслухаць, пачуць вашы прапановы і ацэнкі», — заявіў Старшыня парламента, падкрэсліўшы на гэты раз сваю ролю зацікаўленага слухача, які мае патрэбу параіцца з кампетэнтнымі спецыялістамі. У абмеркаванні прынялі ўдзел вучоныя АН Беларусі, БДУ, Эканамічнага універсітэта, вышэйшай навучальнай установы пры КДБ. Між іншым, ацэньвалася абгрунтаванасць падыходаў і прагнозаў, якія закладзены ў праграму ўрада. Паведамлена, што ў чэрвені Прэзідыум Вярхоўнага Савета мае намер разглядаць ход эканамічных рэформаў і дзейнасць Савета Міністраў.

Прафесар П.Капітула не толькі прааналізаваў стан беларускай эканомікі, але зноў звярнуў увагу на цэнавую палітыку Расіі ў гандлі энерганосьбітамі. Гэта робіць беларускую прамысловасць заведама неканкурэнтаздольнай. На думку П.Капітулы, трэба тэрмінова адрэгуляваць адносіны ў СНД, дабівацца пагадненняў па цэнаўтварэнню і дагавораў аб доўгатэрміновых пастаўках нашых тавараў у краіны СНД. Але зразумела, заўважылі ўдзельнікі размовы, што ў Расіі цэны на нафту непазбежна будуць ніжэй і Масква не збіраецца больш падтрымліваць са свайго бюджэту эканоміку ўсяго былога СССР. Таму трэба шукаць выйсце на шляху структурнай перабудовы, развіваць навукаёмістыя вытворчасці. Трэба павялічыць экспартны патэнцыял, шукаць новыя рынкі, пашыраць магчымасці забеспячэння сыравінай. Аб падтрымцы прадпрымальніцтва гаварыў вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута эканомікі АН Беларусі А.Лучанок. Абмяркоўваліся таксама такія пытанні, як прыватызацыя, прававое забеспячэнне рэформы, фінансавая палітыка дзяржавы, стрымліванне інфляцыі. Адзначалася, што барацьбу з «ценявой эканомікай», з крыміналізацыяй гаспадарчай дзейнасці трэба весці не толькі адміністрацыйнымі, але і эканамічнымі метадамі.

На жаль, сустрэча прадэманстравала: маецца вялікая неабходнасць у пастаянных кансультацыях па стратэгічных пытаннях для Старшыні парламента. Патрэбна салідная «каманда», якая б напрацоўвала стратэгічную лінію для заканадаўчай улады. Навукоўцы былі запрошаныя да працягу супрацоўніцтва. Але ці не наспеў час стварыць і збіраць рэгулярна нейкі кансультацыйны савет пры Старшыні Вярхоўнага Савета?

## ...І АДКАЗВАЕ НА ПЫТАННІ ВУЧОНЫХ

**У другой палове дня 31 мая Старшыня Вярхоўнага Савета С.С.Шушкевіч сустрэўся з навукоўцамі АН Беларусі.**

Вялікая канферэнц-зала Акадэміі ледзь умясціла ўсіх жадаючых, кожны хацеў выкарыстаць магчымасць спытаць аб набалелым у першай асобы краіны. У кароткім уступным слове С.С.Шушкевіч спыніўся на сённяшнім стане беларускай эканомікі, на пытаннях ваенна-палітычнага саюзу і рэферэндума.

Пытанняў, вострых, разнастайных, да Старшыні Вярхоўнага Савета было шмат. Навукоўцаў цікавіў не толькі лёс беларускай фундаментальнай навукі, але і шмат пытанняў сацыяльна-палітычнага жыцця краіны. Перш за ўсё гэта наступствы Чарнобыля, медыцынскае абслугоўванне людзей, забеспячэнне краіны паліўна-энергетычнымі рэсурсамі, жыллёвае будаўніцтва і аплата працы.

Вялікую цікаўнасць праявілі навукоўцы да знешнепалітычнай дзейнасці Старшыні Вярхоўнага Савета. Сваё бачанне месца Беларусі ў сучасным свеце ён асвятліў у час сустрэчы ў розных аспектах, бо ўдакладняючых пытанняў было шмат. Так, Станіслаў Станіслававіч адмоўна ставіцца да Балтыйска-Чарнаморскага Саюза і бачыць Беларусь роўна адкрытай для супрацоўніцтва з усімі суседзямі. На шляхах супрацоўніцтва бачыць Старшыня Вярхоўнага Савета і выйсце з эканамічнага крызісу, у якім апынулася Беларусь. Можна згаджацца або не з ягоным бачаннем ролі навукі і навукаёмістай вытворчасці ў гэтым працэсе, але, на думку прысутных, акадэмічная навука, творчы патэнцыял Акадэміі навук Беларусі — гэта вялікая сіла, якая адыграе станоўчую ролю ў выпраўленні стану эканомікі.



## «ДОБРЫ ВЕЧАР» — НАША ГАЗЕТА»

**Пад такім дэвізам свабодны прафсаюз Мінскага аўтамабільнага завода праводзіць у нядзелю, 6 чэрвеня, аздараўленчы велапрабег па маршруту Мінск — Курган Славы — Раўбічы — вадасховішча «Драздьі» — Мінск.**

Удзел у прабегу могуць прыняць толькі ўладальнікі дарожных, турыстычных і гоначных веласіпедаў (акрамя складных).

Збор адбудзецца 6 чэрвеня ў 8.30 каля Акадэміі навук РБ (насупраць кінатэатра «Кастрычнік»). Ад'езд у 9.00.

Пры сабе мець купальны касцюм, харчаванне на час прабегу, біклагу з вадой.

Прыпынкі для адпачынку запланаваны на Кургане Славы, у Раўбічах і на вадасховішчы «Драздьі».

**Усіх, хто жадае прыняць удзел у мерапрыемстве, просім загадзя тэлефанаваць: 469-392, 429-260. Адказны за велапрабег Валянцін Мароз.**

● АФІЦЫЙНА

## РАШЭННЕ 12 СЕСІІ МІНГАРСАВЕТА XXI СКЛІКАННЯ

**У адпаведнасці з Палажэннем «Аб дысцыплінарнай адказнасці суддзяў, адкліканні і датэрміновым вызваленні суддзяў і народных засядацеляў судоў», зацверджаным Пастановай Вярхоўнага Савета СССР ад 2 лістапада 1989 года, Мінскі гарадскі Савет народных дэпутатаў ВЫРАШЫЎ:**

**Вызваліць ад займаемых пасад па ўласнаму жаданню:**

**1. Храловіча Паўла Сямёнавіча — старшыню народнага суда Савецкага раёна г.Мінска з 13 мая 1993 г.**

**2. Казакову Валянціну Іванаўну — народнага суддзю народнага суда Маскоўскага раёна г.Мінска з 29 сакавіка 1993 г.**

**3. Моніча Аляксея Антонавіча — народнага суддзю народнага суда Маскоўскага раёна г.Мінска з 5 ліпеня 1993 г.**

**4. Сымана Мікалая Міхайлавіча — народнага суддзю народнага суда Першамайскага раёна г.Мінска з 3 чэрвеня 1993 г.**

● ФУТБОЛ

## «ДЫНАМА» ЎЖО АДПАЧЫВАЕ

УЧОРА прайшлі гульні чарговага тура. Мінскім камандам, на жаль, у ім не пашчасціла. «Беларусь» у Брэсце прайграла мясцоваму «Дынама» — 1:2, а аўтазаводцы сталіцы таксама ў гасцях уступілі «Дняпру» — 2:3. Астатнія вынікі: «Маладзечна» — «Шахцёр» — 0:1, «Ведрыч» — «Абутнік» — 2:0, «Тарпеда» Магілёў — «Тарпеда» Жодзіна — 4:0, КІМ — «Будаўнік» — 4:0, «Нёман» — «Лакаматыў» — 2:0, «Фандок» — «Гомсельмаш» — 7:0. Мінскія дынамаўцы адпачывалі.

Безумоўна, звяртае на сябе ўвагу вынік гульні ў Бабруйску, дзе гаспадары ў адной гульні забілі чвэрць таго, што за ўсе папярэднія матчы. Але ўлічваючы, што гамяльчане ваююць ўжо не за ачкі і галы, а за тое, каб атрымаць хаця б якую-небудзь з пачатку года зарплату, што напісаў заяву аб звальненні іх галоўны трэнер — усё зразумела.

Такім чынам, тыя, хто змагаецца за «метал», маюць наступны багаж: «Дынама» Мінск — 49 ачкоў, КІМ — 40, «Фандок» — 39, «Беларусь» — 38, «Днепр» — 37, «Нёман» — 37.

## КАЛЯНДАР

*СЕРАДА, 2 ЧЭРВЕНЯ*
*СОНЦА — 4.43/21.31.*
*Даўжыня дня — 16.48.*
*МЕСЯЦ — поўня 4 чэрвеня, захад — 3.02/усход — 19.13.*
*ІМЯНІНЫ*
*Сёння:*
*Праваслаўныя: Аляксандра, Аляксея, Даўмонта.*
*Каталіцкія: Маркела, Пятра.*
*Заўтра: праваслаўныя: Алены, Канстанціна, Міхаіла, Фёдара.*
*Каталіцкія: Кароля, Льва.*



● ПАРТАКТЫЎ

## БНФ: КРОК НАПЕРАД

29-30 траўня ў будынку тэатра імя Янкі Купалы працаваў Трэці з'езд Беларускага народнага фронту, які сабраў 567 дэлегатаў з усёй краіны.

Са справаздачным дакладам «Беларускі народны фронт і развіццё палітычных працэсаў на Беларусі» выступіў Старшыня фронту народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Зянон Пазьняк.

З'езд прыняў новую праграму БНФ. У яе прэамбуле падкрэсліваецца, што з моманту зацвярджэння ранейшых праграмных дакументаў фронту сітуацыя на Беларусі значна, хоць і не прынцыпова, змянілася, а таму паўстала неабходнасць прыняцця новай праграмы.

Даволі падрабязная праграма адлюстроўвае пераходны характар цяперашняга пераходнага перыяду і прапануе як тэрміновыя неабходныя захады ў розных галінах жыцця краіны, так і бачанне блізкай перспектывы Беларусі.

З'езд прыняў шэраг ухвалаў — пра становішча на Беларусі, пра ўсенародны рэферэндум, пра канстытуцыю Беларусі, да пытання нейтралітэту і інш. Быў адобраны зварот да ўдзельнікаў з'езду беларусаў свету, які заклікае нашых суайчыннікаў не дапусціць, каб на іх пачуццях нажывалі сабе палітычны капітал ворагі беларускай незалежнасці і дэмакратыі.

Старшынёй Беларускага народнага фронту амаль аднагалосна быў зноў абраны Зянон Пазьняк, а яго намеснікамі — Юрась Хадыка, народныя дэпутаты краіны Валянцін Голубеў і Уладзімір Заблоцкі.

*Больш падрабязную інфармацыю і каментар нашага аглядальніка чытайце праз некалькі дзён.*

## БЧС: ПЕРСПЕКТЫВЫ ЁСЦЬ

**Адбыліся кансультатыўныя прамовы паміж старшынёй Беларускага народнага фронту Зянонам Пазьняком, старшынёй Народнага руху Украіны Вячаславам Чарнавілам і старшынёй партыі «Саюз Айчыны» (Летува) Вітаўтасам Ландзбергісам. Лідэры апазіцый у сваіх краінах абмеркавалі магчымасць стварэння Балтыйска-Чарнаморскага Саюза, узгаднілі свае погляды на яго як супольнасць незалежных дзяржаў «буфернай зоны», якія маюць адзіныя інтарэсы ў забеспячэнні і рэалізацыі ўласных нейтралітэтаў. Адным з галоўных накірункаў работы такога саюза мог бы стаць пошук шляхоў з энергетычнага крызісу, які ахапіў краіны Усходняй Еўропы. У хуткім часе ў Мінску адбудзецца міжнародная канферэнцыя, на якой якраз і будзе абмеркавана праблема стварэння балтыйска-чарнаморскага нафтавага калектара.**

**Між іншым, прадстаўнік Хрысціянска-дэмакратычнага народнага фронту Малдовы Думітру Осіпаў і сенатар Рэспублікі Польшча, прадстаўнік «Салідарнасці» Пётр Панканін таксама выказалі прыхільнасць і зацікаўленасць у стварэнні БЧС. Ёсць інфармацыя пра станоўчае стаўленне да Саюза пэўных апазіцыйных колаў Латвіі і Эстоніі.**

## ЗВАРОТ ДА ГРАМАДЗЯНАЎ БЕЛАРУСІ

Пяцьдзесят шэсць народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь (М.Аксаміт, С.Антончык, А.Вярцінскі, В.Далгалёў, У.Заблоцкі, В.Какоўка і інш.), народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў, акадэмік АНБ С.Астапчык, прафесар А.Грыцкевіч, паэт С.Законнікаў, старшыня праўлення Фонду ПДР імя Л.Сапегі Г.Куневіч, старшыня Рады ЗБС «Бацькаўшчына» Я.Лецка, старшыня БСП Я.Лугін, заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Т.Мархель, прафесар Мальдзіс, прадстаўнікі БСДГ, БСП, АДПБ, НДПБ, жаночага Хрысціянска-дэмакратычнага руху Беларусі і многія іншыя знакамітыя людзі краіны падпісалі зварот да грамадзян Беларусі, у якім заклікалі ўсіх, каму не абыякавы лёс Беларусі, узняць голас у абарону дэмакратыі, законнасці і правоў чалавека ў сувязі з незаконным звальненнем з войска з ганебнай фармулёўкай старшыні Беларускага згуртавання вайскоўцаў падпалкоўніка Мікалая Статкевіча.

«Віна» Статкевіча, падкрэсліваецца ў звароце, — у тым, што ён адным з першых у войску падняў імя Беларусі і адкрыта заявіў пра неабходнасць стварэння беларускага войска, у тым, што ён — патрыёт Бацькаўшчыны. Мэта звальнення Статкевіча — запалохаць вайскоўцаў. Само звальненне — яскравы прыклад беззаконня і парушэння правоў чалавека.

## ПКБ и КПБ: ДАЕШЬ ОБЪЕДИНЕНИЕ

ИРИНА ЗАЙЦЕВА, студентка III курса факультета журналистики БГУ.

**29 и 30 МАЯ в Минске проходил II (объединительный) съезд партии коммунистов Беларуси.**

**На съезде присутствовало более четырехсот делегатов, половину из которых составили делегаты от партии коммунистов Беларуси, вторую половину — делегаты XXXII съезда КПБ.**

**На съезде был заслушан доклад политисполкома, принята Программа, избраны ЦК, бюро ЦК и 7 секретарей. II (объединительный) оправдал свое название и окончательно объединил коммунистов из разных организаций в единую партию.**

**Также было принято обращение к Верховному Совету, в котором съезд заявил решительный протест против введения свободных цен.**

**В беседе после съезда сопредседатель партии коммунистов, лидер ДСПС В.В.Чикин сказал, что съезд явился важным этапом в жизни компартии и в выходе ее на политическую арену. Он отметил, что съезд реально отразил ситуацию коммунистического движения на сегодняшний день. Теперь задачи уяснены: коммунисты Беларуси берут курс на завоевание большинства голосов на выборах, которые, как известно, не за горами.**

